*«Я стаю тут з кветкамі ў цёплым месцы ў бяспецы, але нагадаю, што дзясяткі беларускіх літаратараў, журналістаў, пісьменнікаў, эсэістаў знаходзяцца цяпер у жахлівых умовах беларускіх турмаў і на іх мусіць быць скіраваная наша ўвага».*

**Ева Вежнавец,**
**пераможца прэміі Ежы Гедройця 2021**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА




Фота: by_culture

**26 лістапада ў Віцебску затрымалі Уладзімера Булаўскага, вядомага актывіста і арганізатара культурніцкіх імпрэзаў. Паведамляюць, што цяпер ён ў віцебскім СІЗА.**

**Аляксею Мінаву, палітзняволенаму літаратару, настаўніку беларускай мовы і літаратуры, прысудзілі 3 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія») па абвінавачванні ў «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».**



Фота: spring96.org




**Івану Дабруку, Аляксандру Енджэеўскаму і Насці Суханосік, акторам Гродненскага абласнога тэатра лялек, прапанавалі напісаць заявы на звальненне. Гэта ўжо не першыя звальненні з тэатру, звязаныя з палітыкай.**

 

Фота: by_culture

**У Віцебску адразу пасля прэм'еры 21 лістапада забаранілі спектакль «Ціль» Нацыянальнага тэатра імя Якуба Коласа. П’еса драматурга Рыгора Горына па рамане Шарля Дэ Кастэра «Ціль Уленшпігель» расказвае аб адважным і знаходлівым правадыры гёзаў, якія змагаліся супраць тыраніі.**
**Па інфармацыі з медыя, спектакль не спадабаўся чыноўнікам — асаблівае раздражненне ў іх выклікалі выкарыстанне на сцэне чырвоных стужак і выкрыкі са сцэны «Жыве Фландрыя!» На паказе прысутнічала кіраўніцтва Віцебскай вобласці, а таксама прадстаўнікі міністэрства культуры: міністр Анатоль Маркевіч і Ірына Дрыга, начальнік галоўнага ўпраўлення дзяржаўных спецыяльных культурных мерапрыемстваў і прафесійнага мастацтва.**
**Таксама стала вядома пра звальненне Аляксандра Старых, дырэктара тэатра, і мінімум трох актораў — Анжэлы Баркоўскай, Юліі Крашэўскай і Арцёма Герляка.**

**Валерыя Мазынскага, вядомага тэатральнага рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, стваральніка тэатра «Вольная сцэна» і выкладчыка, пазбавілі пенсіі за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь. Прычыны такога рашэння не паведамляюцца, аднак Мазынскі публічна крытыкаваў цяперашнія ўлады за палітыку ў галіне культуры.**



Фота: svaboda.org



Вярхоўны суд не будзе апратэстоўваць прысуд Міколу Папеку, палітзняволенаму па «карагоднай справе» паэту. Пра гэта яму паведамілі пісьмова па месцы жыхарства: «падстаў для вынясення пратэсту не маецца».



Фота: Вадзім Заміроўскі

Наталлю Петухову, мінскую экскурсаводку, арыштавалі на 15 сутак за тое, што яна «адмовілася адчыняць дзверы супрацоўнікам КДБ» і «перашкаджала ім сваім целам праходу ў сваю кватэру».



Фонд «Шчорсы і Храптовічы», які займаўся адраджэннем палацава-паркавага комплексу Храптовічаў у Шчорсах, ліквідавалі.



Фота: by_culture

Спыніўся выхад літаратурнага часопіса «Верасень» праз тое, што чыноўнікі скасавалі рэгістрацыю яго заснавальніка — Таварыства беларускай мовы.

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Ігара Банцэра, музыку і палітзняволенага, выпусцілі са штрафнога ізалятару пасля 20 дзён пакарання. Пазней стала вядома, што суд адмовіў кіраўніцтву віцебскай «хіміі» перавесці Ігара ў калонію на больш жорсткі рэжым. 25 лістапада стала вядома, што Ігара зноў адправілі ў штрафны ізалятар на 10 сутак за тое, што ён запісаў відэа «Медыязоне» пра ўмовы ўтрымання на «хіміі», дзе адбывае пакаранне.**




Фота: svaboda.org



Фота: by_culture

**Сям'я Аляксандра Васілевіча, палітзняволенага сузаснавальніка анлайн-медыя, уладальніка агенцтва Vondel / Hepta і прасторы Галерэя Ў, аўтара казак «Тата і пінгвін», якія нядаўна атрымаў прэмію Францішка Аляхновіча, страціла з ім сувязь — некалькі тыдняў ім не прыходзілі лісты.**



Фота: Новы час

**Андрэй Аляксандраў**,
палітзняволены журналіст,
паэт і медыяменеджар, які нядаўна атрымаў
прэмію Францішка Аляхновіча, даслаў спіс
сваіх улюбёных аўтараў і твораў.
Сярод іх **Святлана Алексіевіч**, пісьменніца,
і **Уладзімір Мацкевіч**,
палітзняволены філосаф і літаратар.

**Аляксандр Багданаў** (Рара Во), палітзняволены дзіджэй і арт-менеджар, які з верасня знаходзіцца ў СІЗА па абвінавачванні ў «групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак», даслаў з-за кратаў свой топ 10 беларускіх трэкаў. Сярод выканаўцаў — **Shuma**, **Петля Пристрастия**, **Сяргей Пукст** ды іншыя.






Фота: svaboda.org

Праваабарончы цэнтр «Вясна»
заклікае дасылаць вершы ў лістах
**Уладзіміру Лабковічу**,
палітзняволенаму праваабаронцу.

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Прэмію Ежы Гедройця 2021 за найлепшую арыгінальную кнігу, напісаную на беларускай мове ў жанрах мастацкай і дакументальнай прозы і выдадзеную ў 2020 годзе, уручылі 26 лістапада.**

**I месца «за стварэнне арыгінальнага мастацкага хранатопу і перадачу аўры беларускасці на фоне глабальнага свету і ўніверсальных каштоўнасцяў» заняла кніга Евы Вежнавец «Па што ідзеш, воўча?»**

**II месца «за засваенне новага фармату айчыннага нон-фікшн, дзе стварэнне паліфанічнага свету беларускай правінцыі спалучаецца з непасрэднасцю аўтарскага выказвання» атрымала Таня Скарынкіна з кнігай «Райцэнтр».**

**III месца – у кнігі «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі» Сяргея Абламейкі «за натхнёны і пераканаўчы расповед пра палітычнае нараджэнне Беларусі і беларускай нацыі».**



Выйшаў <u>буктрэйлер</u> да кнігі **Андрэя Федарэнкі** «Жэтон на метро», шорт-лістара **прэміі Ежы Гедройця 2021**.

У межах тыдня пагружэння ў беларускую культуру, праходзіць серыя майстар-класаў для падлеткаў з выбітнымі дзеячамі культуры: музыкамі **Русяй** і **Лявонам Вольскім**, акторам **Дзмітрыем Тумасам**, а таксама **Мікалаем Халезіным**, арт-дырэктарам Беларускага свабоднага тэатра, і **Аннай Златкоўскай**, пісьменніцай і журналісткай, **Ганнай Комар** — паэткай і сябрай ПЭНа.



Фота: by_culture



**Сяргей Ціханоўскі**, палітычны зняволены, напісаў песню «Гэты шлях» за кратамі. На песню зрабілі кліп, выканаўцам стаў музыка **Kosmas**, у запісе прыняў удзел «**Вольны хор**».




**Фільм «Містэр Ландсбергіс» беларуса Сяргея Лазніцы атрымаў галоўную ўзнагароду Міжнароднага фестывалю дакументальнага кіно ў Амстэрдаме (IDFA). Стужка, складзеная з жывых інтэрв'ю і кадраў хронік, расправядае пра распад СССР і ролю Вітаўтаса Ландсбергіса, лідара руху за аднаўленне незалежнасці Літвы, у гэтым працэсе.**

**Гурт БЯЗ НАЗВЫ (:B:N:) выдаў <u>песню</u> МАЯКІ.**






**У Палацы мастацтваў адкрылася І Трыенале «Канцэпт» канцэптуальнага мастацтва ад Беларускага саюза мастакоў. У экспазіцыі прымаюць удзел 200 аўтараў і каля 450 прац.**

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Андрэй Аляксандраў, палітзняволены, паэт, журналіст і медыямэнеджэр, адрэагаваў на навіну пра тое, што ён стаў лаўрэатам прэміі імя Францішка Аляхновіча:**
***«Мы ж з нацыі паэтаў, і выдатных паэтаў у нас шмат, таму такое прызнанне — шчырая нечаканасць. Кажуць, што паэзія не патрабуе чытачоў, але я ўсцешаны, што мае думкі і словы апынуліся патрэбнымі і, спадзяюся, дапамаглі камусьці хаця б на каліва прайсці гэтую нашу восень. І я з вамі абсалютна згодны: усё будзе добра! Пішам далей».***



Фота: spring96.org



Фота: by_culture

**Яўген Кучмейна («.К»), музыка з Гродна, расказаў пра свае ўражанні ад падзей двух апошніх гадоў:**
***«Гэты год быў выключны. Спачатку здавалася, што вось зараз пачнуцца змены. Пасля здавалася, што не, нічога не будзе. Арэлі. Я працаваў з рознымі музыкамі, якія прыходзілі да мяне пісацца ў студыю, і сярод усіх панаваў страх і параноя. Але гэтая кепская сітуацыя – лепш, чым калі б наагул нічога не адбылося. Калі б нічога не адбылося і ўсё прайшло як заўсёды, гэтае жыццё было б больш падобнае да смерці. Тое, што людзі з’язджаюць, не варта ўспрымаць як паразу і канец усяму. У такі час з’яўляюцца новыя рэчы ў культуры».***

**Экскурсаводка Наста Манкевіч <u>расказала</u> пра сваё затрыманне і суткі:**

***«На сутках была і хлорка, і на вуліцу без верхняга адзення выводзілі, іператрусы ўдзень і ўначы, і кармушку закрывалі на працяглы час. Але, дзякуй богу, хаця б не білі».***



Фота: Наша ніва



**Уладзімір Някляеў, беларускі пісьменнік і паэт, сябра ПЭНа, распавёў пра свой новы раман «Гэй Бэн Гіном»:**

***«Раман стаў актуальны, бо вярнулася тое, што, здавалася, назаўсёды засталося ў гісторыі. Сённяшняе пакаленне беларусаў паўтарае лёс пакалення сталінскіх часоў. Гадоў рэпрэсій, ахвярамі якіх сталі найлепшыя сыны і дочкі Беларусі. У тым ліку нацыянальны геній Янка Купала, пра жыццё і гібель якога раман. Шмат хто пытае пра назву кнігі: што яна азначае? У перакладзе гэта «Геена вогненная». Ці папросту пекла, у якім (у вечным страху быць арыштаванымі, апынуцца ў турмах, у лагерах, у Курапатах) пражылі сваё жыццё персанажы рамана. І ў якім тысячы беларусаў неспадзявана апынуліся сёння...»***

**Галіна Казіміроўская, харавая дырыгентка, якая вымушана была з’ехаць у Польшчу пасля пераследу, <u>кажа</u> ў інтэрв’ю:**

***«Я разумею, што калі я перастану быць музыкам — яны перамаглі, яны мяне зламалі! Людзі культуры ў Беларусі звыкліся з тым, што не атрымліваюць дапамогі ад дзяржавы. Нам проста не перашкаджалі, і гэта ўжо было добра. Мы такая аўтаномная нацыя, якая навучылася знаходзіць выйсце, шукаць падтрымкі з іншых бакоў, каб ладзіць праекты і ствараць творчыя сувязі».***



# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Польскі рэсурс dwutygodnik.com апублікаваў лонгрыд пра беларускую музычую сцэну:
«Эмансіпацыя галасоў — знак часу. У беларускай і рускай мовах слова «галасаваць» (hołas, pigos) таксама азначае ўдзел у выбарах. Людзі літаральна здабывалі свае скрадзеныя галасы, вызваляліся ад паняволенага маўчання і патрабавалі праўды».

У Кіеве адкрылася выстава ўкраінскіх мастакоў «Беларускі майдан» пра падзеі ўкраінскага Майдану і пратэсты ў Беларусі.



Фота: svaboda.org



У варшаўскім Цэнтры Беларускай салідарнасці адкрылася выстава «Карані» фотамастачкі Наталлі Дораш — для беларусаў Варшавы, якія сумуюць па доме. Здымкі былі зроблены цягам 2010–2020 гг. у ваколіцах Гродна.

Маргарыта Ляўчук, оперная спявачка, дала канцэрт салідарнасці з сем'ямі беларускіх палітвязняў ў Цэнтральнай мэрыі Парыжа. Таксама падчас імпрэзы дэманстраваўся фільм Андрэя Вайтовіча «Разам».



# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**По стану на 28 лістапада ў Беларусі 887 чалавек прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца.**

**Беларускі ПЭН як аб’яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У лістападзе 5 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Антон Шніп, музыка (1 лістапада); Кацярына Андрэева, журналістка, пісьменніца (2 лістапада); Віктар Бабарыка, мецэнат (9 лістапада); Ігар Ярмолаў, танцор (15 лістапада) і Максім Крук, сцэнограф (16 лістапада). Давайце павіншуем разам!**

**Адрасы для лістоў:**

**Антону Шніпу і Максіму Круку – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Кацярыне Андрэевай – ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3;**

**Віктару Бабарыку – ПК №1. 211440, г. Навапалацк, вул. Технічная, 8;**

**Ігару Ярмолаву – ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8;**

